*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 180 (1244)

Серада, 26 верасня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне — воблачна з праясненнямі, без ападкаў. Вецер паўночны, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску — +10...+12, Віцебску, Магілёве — +11...+13, Брэсце, Гомелі — +12...+14.

У наступныя двое сутак — малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Вецер слабы. Уначы на значнай частцы тэрыторыі замаразкі да 0...-3, месцамі +1...+3, удзень — +9...+14.



**ПУЛЬС**

## Новая структура Савета міністраў

**Колькасны склад урада значна скароціцца. З 60 у ім застанецца 38 чалавек, замест 63 органаў дзяржаўнага кіравання — 35. У прыватнасці, з 44 міністэрстваў застанецца 28, з 19 канцэрнаў — 10. Пры Савеце міністраў будуць створаны 7 камітэтаў, якія будуць працаваць з некалькімі міністэрствамі, такія, напрыклад, як камітэт па навуцы, па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС.**

Апарат органаў дзяржаўнага кіравання плануецца скараціць у цэлым на 10-15 працэнтаў. Пры гэтым апарат Савета міністраў не будзе валодаць ніякімі ўладнымі паўнамоцтвамі, а ключавымі фігурамі ва ўрадзе будуць міністры.

У дачыненні да кандыдатуры будучага прэм'ер-міністра пытанне пакуль застаецца адкрытым.

За выключэннем прэм'ер-міністра, новы прэзідыум Савета міністраў з 11 членаў быў абвешчаны журналістам персанальна. У яго ўвайшлі 4 віцэ-прэм'еры: Уладзімір Дражын, які будзе курыраваць сацыяльную сферу, навуку і гандаль; Сяргей Сідорскі — пытанні прамысловасці і будаўніцтва; Аляксандр Папкоў — аграпрамысловы комплекс; Андрэй Кабякоў — эканоміку. Захавалі свае пасады ва ўрадзе міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў, міністр фінансаў Мікалай Корбут, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў. У склад прэзідыума ўрада ўвойдуць таксама кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч і старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Анатоль Тозік. Мытны камітэт узначаліў Аляксандр Шпілеўскі, Міністэрства гандлю і паслуг — Аляксандр Кулічкоў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**



## Памежнікі канфіскавалі кніжкі з вершамі і фотаздымкамі Зянона Пазьняка

**24 верасня беларускія памежнікі ў Брэсце канфіскавалі 50 асобнікаў часопіса "Беларускія ведамасці" і дзве кніжкі з вершамі і фотаздымкамі Зянона Пазьняка "Глёрыя Патрыя" ў Мікалая Анцыповіча, актывіста сойма Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар партыі Валерый Буйвал, сп. Анцыповіч вяртаўся ў Беларусь з Варшавы, дзе ён наведваў Зянона Пазьняка, які апошнія 5 год знаходзіцца ў эміграцыі. "Беларускія ведамасці" — часопіс, які выдае сп. Пазьняк.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

## Сайт аб "эскадронах смерці"

**У беларускім Інтэрнеце з'явіўся сайт, прысвечаны тэме знікнення людзей у Беларусі.**

Па ацэнках некаторых спецыялістаў, *www.uberalles.org* з дызайнерскага пункту гледжання — лепшы з усіх апазіцыйных сайтаў у Інтэрнеце. Перш за ўсе звяртае на сябе ўвагу тытульная старонка: на чорным фоне з'яўляюцца белыя літары "Дзе?", якія трансфармуюцца ў прозвішчы Ганчар, Захаранка, Майсеня, Карпенка, Красоўскі. Колер літараў ператвараецца ў чырвоны, пасля яны знікаюць і з'яўляецца надпіс: "Хто наступны?".

Апошні тэкст на старонцы uberalles.org пачынаецца так: *"Сайту жыць як мінумум пяць гадоў... Спачатку планавалася, што пасля перамогі на выбарах кандыдата ад дэмакратычных сіл расследаванне ўсіх "гучных спраў" будзе даведзена да лагічнага заканчэння, і віноўныя, і іхнія памочнікі сядуць... разам са сваім кіраўніком, а сайт вычарпае сябе. Аднак здарылася тое, што здарылася... Пяць гадоў — не так і шмат для гісторыі... Мы з вамі вытрымаем. Бо мы не з тых, хто гаворыць: маўляў, Лукашэнка пенсію кожны месяц плаціць, а больш мне і не трэба. Нам трэба нашмат болей:* ***МЫ ХОЧАМ ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ****".*

На сайце размешчаны не толькі дакументы справы № 414100, рапарты палкоўніка Алкаева і генерала Лапаціка, але і публікацыі, якія па гэтай тэме апошнім часам з'яўляліся ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і расійскіх.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

## Ледзь не застрэлілі салдата Паўлічэнкі

**Днямі ў Мінску быў цяжка паранены супрацоўнік атрада хуткага рэагавання Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі (САХР), які ўзначальвае сумнавядомы падпалкоўнік Дзмітрый Паўлічэнка. Гэта адбылося на адной з кватэр па вуліцы Берута, дзе супрацоўнікі Мінскага РАУС і САХРа спрабавалі затрымаць раней судзімага грамадзяніна Літвы. Пры затрыманні злачынца выстраліў з абрэза паляўнічага ружжа ў жывот камандзіру 3-й групы САХРа.**

Супрацоўнік САХРа 1979 года нараджэння змешчаны ў шпіталь МУС, яму зроблена аперацыя. Аднак стан яго параненшаму працягвае заставацца цяжкім.

Пракуратурай Фрунзенскага раёна Мінска па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа, якая аб'яднана з раней узбуджанымі крымінальнымі справамі аб разбоі і наўмысным забойстве, ва ўчыненні якога таксама падазраецца затрыманы грамадзянін Літвы. У сакавіку 2001 года ён, знаходзячыся ў нецвярозым стане, падчас сваркі нажом забіў чалавека.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

## Затрымана найбуйнейшая партыя какаіну

**У выніку спецаперацыі, праведзенай у канцы мінулага тыдня супрацоўнікамі беларускіх спецслужбаў, з незаконнага абароту была канфіскавана найбуйнейшая за апошнія два гады партыя какаіну — 2,8 кг.**

Як паведамілі БелаПАН у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі, па аператыўных каналах спецслужбамі была атрымана інфармацыя аб тым, што ў адной з ячэек аўтаматычнай камеры захоўвання чыгуначнага вакзала ў Мінску знаходзіцца буйная партыя наркотыкаў. Пры адкрыцці ячэйкі супрацоўнікі КДБ знайшлі пусты чамадан, паміж сценкамі якога быў схаваны какаін. Наркотык замянілі звычайнай мукой, а ўнутраныя сценкі чамадана апрацавалі нябачнай пры звычайным асвятленні люмінісцэнтнай фарбай. За камерай захоўвання было арганізавана круглasутачнае назіранне.

Праз некалькі дзён ячэйку адкрыла старая жанчына. Забраўшы чамадан, яна села на цягнік, які ехаў у Гомель, дзе і перадала груз атрымальніку. Ім аказаўся грамадзянін Нігерыі Асуджы Райманд Ннадозі. На наступны дзень ён быў затрыманы супрацоўнікамі Упраўлення па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў і байцамі групы "Альфа". Падчас агляду кватэры аказалася, што чамадан і тайнік у ім ускрытыя, а яго змесціва схавана пад ложкам. Рукі нігерыйца і яго жонкі былі пакрыты фарбай, якую супрацоўнікі КДБ нанеслі на ўнутраныя сценкі чамадана. Устаноўлена, што какаін прызначаўся для далейшай адпраўкі ў Маскву. Нігерыец і яго жонка затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Групу Юрыя Данькова абвінавацілі ў махлярстве

**Узбуджана крымінальная справа па факце службовага падлогу, учыненага прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы былога патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь прадпрымальніка Юрыя Данькова.**

У паведамленні прэс-службы пракуратуры горада Мінска, распаўсюджаным 24 верасня, гаворыцца, што "аддзелам агульнага нагляду пракуратуры горада Мінска па выніках разгляду матэрыялаў, прадстаўленых Цэнтрвыбаркамам,.. вынесена пастанова аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце ўнясення ўпаўнаважанымі Цэнтрвыбаркамам асобамі загадзя лжывых подпісаў выбаршчыкаў у падпісныя лісты па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Данькова Ю.П." Справа ўзбуджана па артыкуле 427 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (службовы падлог). Гэтыя дзеянні, у выпадку прызнання віны, караюцца штрафам, або пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або абмежаваннем свабоды на той жа тэрмін, або пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**ТЕМА ДНЯ**

## РОССИЯ ОБЪЯВИЛА ВОЙНУ ИСЛАМУ

### А что ждет Беларусь?

Президент России Владимир Путин выступил по центральным российским телеканалам с обращением к гражданам своей страны. Суть его речи сводится к основным трем соображениям. Во-первых, по словам Путина, хотя и "Россия не намерена участвовать в военной операции США и их союзников против Афганистана", но готова "предоставить свое воздушное пространство для пролета самолетов с гуманитарными грузами в район антитеррористической операции", предоставлять, как сейчас, так и впоследствии, "имеющуюся информацию об инфраструктуре, местах пребывания международных террористов и базах подготовки боевиков". Наконец, Россия готова принять участие "в международных операциях поисково-спасательного характера".

Во-вторых, Россия, по словам своего лидера, будет расширять "сотрудничество с международно-признанным правительством Афганистана во главе с Раббани и окажет его вооруженным силам ("Северному Альянсу") дополнительную помощь в форме поставок вооружений и боевой техники".

В третьих, президент Путин заявил, что дает всем участникам чеченских незаконных бандформирований 72 часа на то, чтобы "выйти на официальных представителей федеральных органов власти для обсуждения порядка разоружения этих формирований и порядка их включения в мирную жизнь в Чечне".

Как следует понимать речь Путина, произнесенную через двенадцать дней после терактов в США? Президент России, заручившись пониманием, одобрением и поддержкой всех своих силовиков, всех лидеров думских фракций и всех лидеров российских мусульман, объявил о начале неизбежной второй афганской войны. Формально Россия действительно не будет принимать в ней участия, но в действительности поддержка Раббани всеми "техническими и гуманитарными" средствами неизбежно означает включение в эту войну. Все предыдущие переговоры российских представителей с лидерами "Северного альянса" только подтверждают это соображение.

Более того, если Россия не воспользуется настоящим моментом и не поддержит "Северный альянс" техникой, гуманитарной помощью и военными советниками, то, по мнению многих аналитиков, Соединенные Штаты, не имеющие в виду российских среднеазиатских предпочтений, могут, в рамках своей операции, сместить все существующие приоритеты.

Как известно, нейтральная и безъядерная Беларусь усилиями некоторых отечественных поклонников "выкапывания символических шлагбаумов" на границе с Россией, состоит в союзе с этой страной. Экономических дивидендов от данного союза, следует признать, белорусы получают немного (если не считать пары десятков особо продвинутых наших сограждан, ежедневно посещающих столичное здание на К. Маркса, 38). Теперь в нагрузку ко всему мы получаем еще и сомнительное удовольствие быть втянутыми в "гуманитарную" операцию России против Афганистана. Нам что, еще одна каплица нужна на острове слез?

Следует отметить, что страна-союзник Беларуси фактически объявила войну не просто государству Афганистан, но и, по сути, — всему исламскому миру. И это факт. То, что белорусская мать, провожающая своего сына в пока еще белорусскую армию, может неожиданно узнать, что место сужбы ее кровиночки переносится из близких борисовских Печей в далекий Афганистан — это еще не все, что, можно думать, несет Беларуси набивший оскомину Союз Беларуси и России. В скором времени белорусы вполне могут стать свидетелями пролета над территорией нашей Родины столь не любимых белорусскими властями НАТО-вских истребителей и проезда по нашей территории эшелонов с западной военной техникой в район боевых действий.

Россия предоставляет коридор НАТО. Об этом заявил Путин. Так неужели союзная России Беларусь посмеет перечить "старшему брату", так любезно поддержавшему в нужный момент спадающие штаны обанкротившегося "батьки" белорусского? Основательно сомневаюсь. Все объединительные бумажки давно подписаны, все шлагбаумы выкопаны. Только теперь по железным дорогам, тщательно обкатанным водочными экспрессами "Торгэкспо", могут поехать танки Бундесвера и боевые машины пехоты британских Вооруженных сил. Заманчивая перспектива, ничего не скажешь...

**Александр СИЛИЧ.**

# Нясіце ў Курапаты крыжы!



*На месцы разварочаных бульдозерамі пахаванняў моладзь ставіць крыжы.*



*Пачалася рэканструкцыя Мінскай кальцавой аўтадарогі ў раёне Курапат.*

**Фота IREX/ProMedia.**

## Учора былі спынены работы на Мінскай кальцавой дарозе каля ўрочышча Курапаты. Маладыя людзі працягваюць супраціўленне: на шляху будаўнікоў стаяць крыжы і гараць вогнішчы

Бульдозеры з'явіліся на гэтым участку сталічнай кальцавой дарогі яшчэ напрыканцы мінулага тыдня. Негледзячы на запэўніванне супрацоўнікаў прадпрыемства "Магістральаўтадар", карчаванне дрэў пачалося не з боку горада, а ў бок Курапат. Улады ў чарговы раз нахабна нас падманулі.

Ва ўрочышчы адразу пачаліся масавыя акцыі пратэсту. Учора кіраўніцтва Камітэта аўтамабільных дарог прыняло рашэнне часова спыніць рэканструкцыю дарогі каля Курапат. Частка будаўнікоў з'ехала, тыя, хто застаўся, кажуць, што пачнуць працаваць, калі бунтары супакояцца і пакінуць урочышча.

У Курапатах людна. Гараць вогнішчы, стаіць турыстычная палатка. Вакол — навалы выкарчаваных дрэў. Маладыя людзі вырабляюць крыжы, ставяць іх на тое месца, дзе ўжо паспеў прайсці бульдозер. Хлопцы дзяжураць на трасе кругласутачна, раніцай у Курапаты прыязджаюць пенсіянеры, сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі.

— Тое, што тут адбываецца, нават нельга назваць варварствам. Гэта нешта больш страшнае, — расказвае Сяржук Мацкойц. — Учора сюды прыязджала кіраўніцтва Камітэта аўтамабільных дарог. Спыніліся насупраць нас і непасрэдна на трасе правялі нараду. Як толькі вялікія чыны з'ехалі, загрукатаў бульдозер. Ён пачаў карчаваць дрэвы, якія растуць за помнікам ахвярам масавых рэпрэсій. Калі жанчыны, якія тут сабраліся, пачалі абурацца, што нельга ехаць па костках нашых продкаў, бульдозер пачаў ганяцца за імі.

Звычайна, калі валіцца лес, вядзецца раскарчоўка, дрэвы вывозяцца. Тут не вывозіцца нічога, дрэвы проста ссунулі ў бок.

Маладыя людзі кажуць, што будуць бараніць памяць продкаў столькі, колькі спатрэбіцца. Нават маразы, якія прагназуюць беларускія метэаслужбы, не прымусяць іх зняць палатку і патушыць вогнішчы.

Будаўнікі, наадварот, гатовы аднавіць працу па першым загадзе. Калі я падышла да іх, каб задаць некалькі пытанняў, яны адмовіліся размаўляць з журналістам "Народнай волі", не захацелі нават назваць сябе. Адзін з рабочых кінуў мне ўслед: "Для нас гэта не святое месца".

Калі я пакідала Курапаты, яшчэ раз падышла да драўлянага знака, дзе напісана: "Тут у лясным масіве Курапаты знаходзяцца астанкі ахвяр масавых рэпрэсій 1937-1941 гадоў. **Памяць пра іх будзе жыць у нашых сэрцах**".

Няўжо гэтая памяць такая кароткая?

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

# Заўтра пачынаюць судзіць гродзенскую газету ПАГОНЯ

# Над незалежным друкам — смяротная пагроза

## Камітэт у абарону журналістаў падаў голас пратэсту

**Камітэт у абарону журналістаў (КАЖ) — міжнародная арганізацыя са штаб-кватэрай у Нью-Йорку (ЗША) — выступіў з асуджэннем ціску з боку ўлад Беларусі на незалежныя сродкі масавай інфармацыі падчас нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў.**

У заяве КАЖ асаблівая ўвага звяртаецца на тое, што 9 верасня — у асноўны дзень галасавання — былі заблакаваны Інтэрнэт-старонкі тых недзяржаўных беларускіх СМІ, якія асвятлялі падзеі прэзідэнцкай кампаніі. Акрамя таго, у перыяд напярэдадні выбараў КАЖ задакументаваў шматлікія выпадкі ўрадавых абмежаванняў на распаўсюджванне газет, у тым ліку шляхам канфіскацыі тэхнічнага абсталявання і газетных накладаў, гаворыцца ў заяве.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

## Дзяржкамдрук вынес папярэджанне "Брестскому курьеру"

**Штотыднёвік абвінавачваецца ў парушэнні артыкула 5 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".**

У нумары 35 ад 23 жніўня газеты "Брестский курьер" пад загалоўкам "Спыніце цкаванне дэмакратычных кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь!" была апублікавана заява ад імя шэрагу грамадскіх арганізацый і палітычных партый Брэсцкай вобласці. Дзве з іх — абласныя арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і Аб'яднанай грамадзянскай партыі — не прайшлі рэгістрацыю ва ўпраўленні юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама.

Дзяржкамітэт па друку папярэдзіў газету аб недапушчальнасці парушэння артыкула 5 Закона, які забараняе выкарыстоўванне СМІ для распаўсюджвання інфармацыі ад імя палітычных партый, прафсаюзаў ці грамадскіх аб'яднанняў, якія не прайшлі ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю.

У "Брестском курьере" БелаПАН паведамілі, што не будуць патрабаваць адмены дадзенага папярэджання, паколькі гэта не пагражае газеце закрыццём. Згодна з беларускім заканадаўствам, выданне можа быць закрыта пасля вынясення двух — на працягу года — аналагічных папярэджанняў. І хаця напачатку бягучага года штотыднёвік ужо атрымліваў падобнае папярэджанне (тады Дзяржкамдрук абвінаваціў "Брестский курьер" у распаўсюджванні інфармацыі ад імя каардынацыйнага савета "Рэгіянальная Беларусь"), яго ўдалося аспрэчыць у судзе. Такім чынам, цяперашняе папярэджанне Дзяржкамдруку можна лічыць першым сёлета для "Брестского курьера".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## "Свободные новости" выходзяць...

Як паведаміў БелаПАН галоўны рэдактар выдання Аляксандр Уліцёнак, часовае аднаўленне газеты стала магчымым пасля перамоў паміж кіраўніцтвам рэдакцыі і Дзяржкамітэтам па друку, якія прадстаўлялі, у прыватнасці, яго старшыня Міхаіл Падгайны і начальнік юрыдычнага аддзела Міхаіл Коваль. "Мы перадалі ў Дзяржкамітэт па друку зварот працоўнага калектыву, а падчас асабістай сустрэчы падрабязна апісалі сітуацыю вакол "Свободных новостей". Вынікам гутаркі стала ўказанне Падгайнага Беларускаму Дому друку аднавіць выпуск нашага выдання. Мы дамовіліся, што газета будзе выходзіць да вырашэння заснавальнікамі ўсіх спрэчных пытанняў, якія будуць разглядацца ў судовым парадку", — сказаў Уліцёнак.

У свежым нумары "СН" змешчаны каментарый Міхаіла Падгайнага да сітуацыі вакол газеты. Паводле яго слоў, Дзяржкамітэт па друку "не можа ўмешвацца ў гэтую праблему наогул". "Ёсць гаспадар газеты. Ён вольны прымаць рашэнні: каго браць на працу, каго звальняць. (...) Гэта жыццё і бізнес, дзе акрамя эмоцый існуе яшчэ ўлада і меркаванне ўладальніка. Павінен прызнаць, што ў выпадку са "Свободными новостями" сітуацыя выглядае крыху па-іншаму. Сярод звольненых супрацоўнікаў — не толькі наёмныя работнікі, але і заснавальнікі. Тут справа можа вырашыцца толькі ў судзе або на агульным сходзе заснавальнікаў "СН".

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**КТО ЕСТЬ КТО**

# Настоящий полковник!

**Есть, перефразируя классика, мужчины в белорусских селеньях! Вот, к примеру, депутат Национального собрания Республики Беларусь от Гомельского района. Уже дважды депутат! Человек, которым Гомельщина может гордиться по праву.**

**Судите сами: у А.Лукашенко, если верить декларации, всего-навсего мотоцикл, да и тот у сына, а у нашего народного представителя "Ауди А6" и "БМВ-730". Семья тоже, как говорится в кавказском анекдоте, не пешком ходит. У сына "Тойота-Карина", а у жены — "Ниссан". И заметьте, все это куплено не на зарплату депутата, а на свои, нажитые непосильным трудом, в период "неустанного роста благосостояния республики", то есть с 1998 по 2001 год.**

**У Лукашенко нет возможности купить жилье в Минске. Нищета? Наш же избранник имеет две квартиры в г. Гомеле — трех- и четырехкомнатную (последнюю он также приобрел недавно).**



**Естественно, уважаемые читатели, у вас возникает закономерный вопрос: кто же этот депутат Национального собрания от Гомельского района? Крупный бизнесмен? Олигарх? А может, представитель международной мафии? Нет, нет и еще раз нет! Вы не правы. Разве мы, рабочие и колхозники Гомельщины, направим в Минск бандита?**

**Ну что вы, бросьте. Анатолий Михайлович Соловьев —простой заместитель простого начальника простого областного УВД. Настоящий полковник!**

**И семья у него обычная. Жена — продавец, дочь — следователь прокуратуры, сын — студент юридического факультета Гомельского госуниверситета. Кстати, хороший парень, но шалун. Вот недавно папа дал ему дискету с засекреченными адресами жителей города, так он ее в компьютерную сеть отправил. Дети, что с них возьмешь.**

**Кроме всего прочего, Анатолий Михайлович очень скромен, и, видимо, поэтому не раскрывает секрет, как можно при доходе около 1000—2000 у.е. в год за два с половиной года приобрести имущества где-то на 50.000 у.е. Коперфильд! Снимите шляпу! Ваши фокусы — детская забава.**

**Конечно, Анатолий Михайлович обычный человек, и у него есть свои недостатки. Забывчивость, например. Человек, погубивший здоровье на ниве борьбы с преступностью, к сожалению, часто болел, в связи с чем вынужден был лежать в больнице. Человек он занятой, и поэтому "иногда забывал" предоставлять в родное УВД больничные листы, вот и получал премиальные и пайковые в полном объеме. Вы скажете: "Как! Это же хищение путём злоупотребления служебным положением! Статья Уголовного кодекса Республики Беларусь!?" И опять будете не правы.**

**Как хороший врач проверяет на себе действие новых лекарств, так и Анатолий Михайлович, как хороший законодатель, проверяет на себе действие новых законов. Ведь он же заместитель председателя комиссии Национального собрания по законодательству.**

**Вот видите, белорусская земля может рождать не только рапс, но и настоящих мужчин. При этом хотелось бы от имени гомельских избирателей попросить Анатолия Михайловича не скромничать, а издать книгу "Как быстро разбогатеть". Мы тоже хотим путём поднятия благосостояния каждой отдельно взятой семьи поднять благосостояние страны. И тогда мы превратим Гомельскую область в маленькую болотную Швейцарию.**

**Анатолий МОЛЧАНОВ, житель Гомеля.**

